# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 32 (242) 13 — 19 жніўня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


Фота Генадзя ЖЫНКОВА

## ДА ПАБАЧЭННЯ, ПАН МАРЭК! ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ПАН ПАВЕЛ!

***У Польскай амбасадзе ў Беларусі прайшла рабочая на першы погляд падзея, але яна не магла не закрануць тых, хто звязаны з беларускім культурным жыццём. Закончыўся тэрмін працы саветніка па культуры Польскай амбасады, даўняга сябра нашай газеты, ініцыятара і натхняльніка многіх культурных падзей у Мінску і Беларусі пана Марэка Галкоўскага. Са жніўня 1996 года на яго месца ўжо ў рангу першага сакратара, які курыруе пытанні культуры, заступае пан Павел Пшэцішэўскі. Невялікія інтэрв'ю ў абодвух дыпламатаў узяў наш карэспандэнт Сяргей Мінскевіч.***

**— Пан Галкоўскі, сёння Вы здаяце свае паўнамоцтвы. Як пачыналася Ваша кар'ера ў Мінску і што самае важнае, на Вашу думку, было зроблена ў культурным супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларуссю за тэрмін Вашай працы?**

— Як вы памятаеце, я пачынаў, калі польскага пасольства ў Беларусі яшчэ не было, было генконсульства. Пачынаў працу як консул па справах культуры і асветы, а потым, калі консульства было ўзнята ў ранг амбасады, я стаў начальнікам аддзела культуры і навукі, а цяпер я ўжо саветнік. Гэта сведчыць не толькі аб тым, што падвышаецца мой дыпламатычны ранг, але і аб вялікай увазе і цікавасці, якія Польшча мае да культурнага і навуковага супрацоўніцтва з Беларуссю.

За пяць гадоў, мне здаецца, было зроблена шмат. А сваю працу я пачынаў у верасні 1991 года з падрыхтоўкі пагаднення аб культурным супрацоўніцтве паміж Міністэрствамі культуры Беларусі і Польшчы. Было шмат чаго зроблена і, галоўнае, цяпер пакладзена грунтоўная база для больш шырокага супрацоўніцтва. З тых міжведамасных, міжгаліновых пагадненняў узрасло міжурадавае пагадненне, якое падпісана толькі ў пачатку гэтага года.

**— Вы з'яўляецеся дырэктарам Польскага інстытута ў Мінску.**

— Так, распачаў працу Польскі інстытут — гэта своеасаблівы польскі культурны цэнтр у Мінску. І я спадзяюся, што ў хуткім часе распачне сваю дзейнасць Беларускі інстытут у Варшаве.

(Заканчэнне на стар. 7)



## НАТАТНІК ТЫДНЯ

# "ЗА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КУЛЬТУРУ МЫ БУДЗЕМ СТАЯЦЬ НАСМЕРЦЬ..."



Так міністр культуры Рэспублікі Беларусь акрэсліў генеральную лінію дзейнасці ягонага ведамства падчас прэс-канферэнцыі для журналістаў, што адбылася 7 жніўня ў Прэс-цэнтры.

Сустрэча была прысвечана праграме развіцця нацыянальнай культуры, якая зараз распрацоўваецца. Як канцэпцыя, над якой працуе вялікая група вядучых беларускіх навукоўцаў і дзеячаў культуры, утрымоўвае ў сабе не толькі прафесійнае мастацтва і народную творчасць, але і адукацыю, развіццё роднай мовы і нават пытанні сучаснай беларускай арфаграфіі.

Міністр паведаміў, што ўжо пачата першапачатковае фінансаванне ў суме 47 мільёнаў рублёў, а поўная распрацоўка культурнай праграмы абыдзецца дзяржаве больш за 1 мільярд рублёў.

У аснове праграмы, падкрэсліў Аляксандр Уладзіміравіч, ляжыць захаванне і развіццё класічнай адукацыі ў галіне выяўленчага мастацтва, музыкі, тэатра і г.д. Калі студэнт-першакурснік кажа, што "ён так бачыць", гэта не зусім правільна. Студэнт павінен спачатку атрымаць класічную адукацыю, а потым ужо працаваць, як ён захоча, уключаючы авангардныя пошукі.

Вялікую ўвагу спадар Сасноўскі надаў становішчу музеяў рэспублікі, і ў першую чаргу — Нацыянальнаму мастацкаму музею. Аказваецца, толькі 6 працэнтаў экспанатаў сёння могуць быць убачаны наведнікамі, а 94 — знаходзяцца ў сховішчах з прычыны катастрафічнага недахопу плошчаў.

Зараз ужо падрыхтавана праектная дакументацыя і выдаткаваны сродкі для пашырэння плошчаў, але гэтых сродкаў відавочна недастаткова. Міністр запэўніў, што "мы прыкладзем усе намаганні дзеля таго, каб гледачы ўбачылі ўсё, чым валодае музей". Дарэчы, па багацці калекцыі твораў мастацтва наш музей уваходзіць у тройку лепшых мастацкіх музеяў былога СССР — пасля Масквы і Санкт-Пецярбурга.

Прыкладна ў такім самым становішчы знаходзяцца і іншыя музеі Беларусі, колькасць якіх за апошнія пяць гадоў не паменшылася, а наадварот, нават павялічылася. Гэта сведчыць пра цікавасць народа да сваёй гістарычнай і культурнай спадчыны. Тым не менш матэрыяльная база музеяў нас не задавальняе, таксама адзначыў міністр. Выдаткаваных сродкаў не хапае для таго, каб паўнавартасна займацца навуковай працай, сістэматызацыяй фондаў, экспазіцыямі і рэстаўрацыяй.

Шмат зроблена, праўда, у "жамчужыне еўрапейскай архітэктуры" — Мірскім замку. Дзяржава выдаткавала больш за 5 мільярдаў рублёў, і сёлета плануецца зрабіць дах у паўночным крыле замка. Міністр спыніўся таксама і на праблеме народнай творчасці, якая заўжды з'яўлялася асновай беларускай нацыянальнай культуры.

Не застаецца без увагі і "высокае мастацтва". А.Сасноўскі распавёў пра рэарганізацыю Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, які ўзяты пад патранаж Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Далей міністр спыніўся на выніках уступных іспытаў у ВНУ. Нягледзячы на матэрыяльнае жабрацтва нашай культуры, творчыя прафесіі не страцілі свайго прэстыжу. На шматлікія факультэты Акадэміі мастацтваў, Акадэміі музыкі, Беларускага універсітэта культуры конкурс склаў у сярэднім ад 3 да 7,6 чалавека на адно месца! Прычым упершыню выпускнікам сталічных школ і вучэльняў склалі канкурэнцыю выпускнікі з іншых гарадоў і вёсак краіны. Напрыклад, 2/3 маладых людзей, якія залічаны сёлета ў Беларускі універсітэт культуры — з правінцыі.

А.Сасноўскі падрабязна адказаў на пытанні журналістаў, што датычыліся вяртання культурных каштоўнасцей на Беларусь, у тым ліку пошукаў Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, які разам з іншымі духоўнымі каштоўнасцямі Магілёўскага музея знаходзіцца, "магчыма, недалёка ад нас". Версія пра абрабаванне гэтых нацыянальных скарбаў гітлераўцамі не пацвердзілася. Міністэрства культуры сумесна з КДБ працягвае пошукі.

Былі закранутыя таксама праблемы жыцця сталічных кінатэатраў і вясковых бібліятэк, культурных сувязей Беларусі з суайчыннікамі за мяжой. Шмат увагі міністр надаў пытанню забароны набажэнстваў у Пакроўскай царкве, якая знаходзіцца на тэрыторыі Музея народнай архітэктуры і побыту. Сапраўды, у сувязі з тым, што аўтаномны праваслаўны прыход на чале са святаром Гушчам "не зарэгістраваны афіцыйнымі дзяржаўнымі органамі", у адпаведнасці з Законам святар не мае права праводзіць "на тэрыторыі Дзяржаўнага музея публічныя набажэнствы".

А што да самога музея ў Строчыцах, дык спадар Сасноўскі заклікаў журналістаў звярнуць на яго больш увагі, бо гэты музей з'яўляецца унікальным, але тым не менш шмат хто з нашых суайчыннікаў нават не ведае пра ягонае існаванне.

**Наш кар.**

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

***

Сёлета Дзень беларускага пісьменства і друку адбудзецца ў Навагрудку. Ужо стала традыцыяй адзначаць яго ў першую нядзелю верасня. На гэты раз у праграме свята гісторыка-мастацкае шэсце, кніжны кірмаш, фальклорны мюзікл "Цар Максімільян". Мяркуецца правесці дзіцячае Свята, падчас якога будзе сабрана дабрачынная бібліятэка. На Замкавай гары пройдзе гала-канцэрт. Частка мерапрыемстваў пройдзе ў пасёлку Любча, вёсцы Лаўрышава. Па традыцыі навукова-творчая экспедыцыя "Дарога да святыняў" прынясе Нязгасны агонь, запалены ля труны Гасподняй.

***

У Нацыянальнай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі польскай даследчыцы Аляксандры Бергман "Слова пра Браніслава Тарашкевіча". Выданне мае шырокае асветніцкае значэнне і зацікавіць не толькі навукоўцаў.

***

За высокія дасягненні ў развіцці беларускай нацыянальнай харэаграфіі мастацкі кіраўнік-дырэктар Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі" Валянціна Гаявая Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узнагароджана медалём Францыска Скарыны.

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ...

На думку спецыялістаў, значнай падзеяй у культурным жыцці сусветнага супольніцтва з'явілася Першая сусветная фальклярыяда, якая напрыканцы ліпеня праходзіла ў горадзе Брунссуме ў Нідэрландах. Яна адбылася па ініцыятыве і пад патранажам ЮНЕСКО і Міжнароднага Савета па правядзенні фальклорных фестываляў і традыцыйных мастацтваў. У ёй бралі ўдзел творчыя калектывы і афіцыйныя прадстаўнікі з 62 краін розных кантынентаў. Адначасова штодзень на канцэртах прысутнічала звыш 10 тысяч чалавек, а на ўрачыстым парадзе ўдзельнікаў фальклярыяды, які прайшоў па цэнтральных вуліцах горада, прысутнічала звыш 120 тысяч жыхароў з Нідэрландаў, Германіі, Бельгіі, іншых краін. Беларусь на фестывалі прадстаўляў наш унікальны калектыў "Крупіцкія музыкі", які па ацэнках спецыялістаў з розных краін вызначаўся высокай сцэнічнай культурай, дакладным і беражлівым выкарыстаннем фальклору, нацыянальных інструментаў, касцюмаў. Наступную фальклярыяду мяркуецца правесці ў Японіі. Пра сённяшнія праблемы, звязаныя з існаваннем фальклору ў свеце, правядзеннем такіх форумаў, можна будзе даведацца ў бліжэйшых нумарах "Культуры" ў інтэрв'ю з удзельнікамі фальклярыяды: з загадчыкам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвушам Стружэцкім і мастацкім кіраўніком "Крупіцкіх музыкаў" Уладзімірам Громам.

**А.РОВІЧ**

# ПРЫГАЖОСЦЬ РОДНАЙ ФЛОРЫ І ФАУНЫ

У музеі Дзяржынскага ў Івянцы экспанавалася персанальная выстава твораў Ірыны Пашкевіч. Прафесійны журналіст, намеснік рэдактара Валожынскай раённай газеты "Працоўная слава" пачала займацца фларыстыкай два гады таму. За гэты час яна стварыла шэраг цікавых кампазіцый. Мастачка працуе ў розных жанрах, але найбольшых поспехаў дасягае ў пейзажы. Магчыма, гэта ад любові да роднай прыроды, якая яе атачала з маленства і вельмі прываблівае сёння. Імгненні вясны, лета, восені, сабраныя на ўлонні зямлі, ажываюць і спыняюцца ў яе творах, несучы святло яе пачуццяў людзям. Вобразы, якія прымроіліся аўтарцы падчас творчага натхнення, пачынаюць жыць сваім уласным жыццём, занатоўваючыся ў падсвядомасці гледача станоўчымі эмоцыямі. З засушаных кветак, травы, лісця, бярозавай кары, імху і г.д. мастачка стварае арыгінальныя пано, гарманічныя па каларыце, лірычныя па змесце і заўсёды — вытанчаныя. У сціплых на першы погляд матывах адлюстроўваецца непаўторная прыгажосць роднай флоры і фауны.

Здзіўляе, што Ірына, не маючы спецыяльнай мастацкай адукацыі, стварае такія ўзнёсла-пранікнёныя творы. Несумненна, яе творчасць заслугоўвае ўвагі, бо чуллівая душою мастачка эмацыянальна ўспрымае свет і шчыра дзеліцца сваімі набыткамі.

**Алег РАМАНОЎСКІ**

*Івянец*

# ПРАПАНУЕ "VAUKALAKA"

Геаграфічнае становішча краіны вызначае яе гісторыю. Беларусь гэтую выснову яскрава пацвярджае. Знаходзячыся ў месцы перасячэння найгалоўнейшых магістраляў Еўропы — Поўнач-Поўдзень і Захад-Усход, наша дзяржава заўсёды была адным з самых актыўных удзельнікаў міжнародных адносінаў і з'яўлялася аб'ектам прыцягнення інтарэсаў розных краін свету. Таму не дзіўна, што беларуская вайсковая гісторыя вельмі багатая на падзеі, вырашальных бітвы, знакамітых ваяводаў. На жаль, да гэтага часу ў гістарыяграфіі Беларусі вайсковая гісторыя спецыяльна не даследавалася. Таму пэўнай аддушынай для аматараў і даследнікаў гэтай тэмы стане, спадзяемся, выпуск камплекта з 12 паштовак "Беларускі вайсковы строй і зброя XII—XVIII стст.". Паштоўкі — ілюстраваная гісторыя беларускай зброі і вайсковага ўбору. Тут на аснове матэрыялаў гістарычных крыніц, археалагічных, іканаграфічных знаходак робіцца спроба паказаць шляхі развіцця беларускай вайсковай справы, аднавіць знешні выгляд беларускага воя з часоў Полацкага княства да падзелаў Рэчы Паспалітай. На адваротным баку даецца гістарычная даведка пра паходжанне строя, зброі, чыну ваяра.

Таксама выйшлі з друку тэзісы канферэнцыі "Беларусь у сістэме транс'еўрапейскіх сувязяў у І тыс.н.э.". Гэтая канферэнцыя была праведзена Цэнтрам этнакасмалогіі "KRYUJA", Фондам развіцця традыцыйнай этнічнай культуры (ФРТЭК) і Інстытутам гісторыі Акадэміі навук РБ у Мінску з 12 па 15 сакавіка. На ёй выступалі навукоўцы з 7 краін — Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі, Украіны і ЗША.

Пабачыў свет і чарговы нумар часопіса "KRYUJA": Crivica. Baltica. Indogermanica.", навуковага выдання Цэнтра этнакасмалогіі "Крыўя". Два артыкулы напісаны вядомым беларускім хеталагам Г.Даўгялам. Першы прысвечаны аналізу тэксту Старога Запавету, дзе аўтар спрабуе разабрацца ў складана пераплеценых сведчаннях пра час існавання, паходжанне народаў Малой Азіі. У другім артыкуле вядомы даследнік на аснове здабытых у апошняе стагоддзе матэрыялаў дапрацоўвае вядомы старажытны сюжэт пра героя-знайдзёна — будучага цара. Аўтар наступнага артыкула — А.Перзашкевіч даследуе тэрмін varna ў дачыненні да грамадства ведыйскіх арыяў. А.Квяткоўская спрабуе рэканструяваць вясковы мужчынскі строй XI—XVII стст. паводле матэрыялаў каменных могілак. Л.Дучыц падае некаторыя дадзеныя пра культавыя дрэвы на Беларусі. Аўтаркай даследуецца старажытны культ дрэваў у міфалагічнай мадэлі свету. Галоўны рэдактар часопіса С.Санько разглядае ў сваіх зацемках некаторыя беларускія словы, якія, да гэтага часу не маючы задавальняючага этымалагічнага тлумачэння, кваліфікуюцца як субстратныя балтызмы беларускай мовы. У часопісе змешчаны таксама рэцэнзія Ю.Зайца на кнігу А.Трусава, В.Собаля і Н.Здановіч "Стары замак у Гродне XI—XVIII стст.", нататкі з экспедыцый Э.Зайкоўскага і А.Квяткоўскай.




*Гэтую літаратуру вы можаце набыць, патэлефанаваўшы яе выдаўцу — Навукова-творчай фірме "VAUKALAKA" па тэл. 0172 2 707836 (Мінск).*

**Інфармацыйная служба "ISK"**

## САБОРНАЯ ПЛОШЧА

# ПАКУЛЬ ПЯРУН НЕ ТРЭСНЕ

**Настаяцель кафедральнага Свята-Духава мінскага сабора протаіерэй Генадзь ДЗІЧКОЎСКІ.**

**— Добры дзень, бацюшка... Не ведаю, з чаго пачаць... Проста цяжка ўявіць, што гэтакае здарылася...**

— Агароджы няма. Нічога няма. Агароджы не было ніколі, з самага будавання, але цяпер яна патрэбная. Таму што, бачыце — прахадны двор... Ходзяць усялякія... Тое, што здарылася, гаворыць аб нашым "выдатным і высокамаральным" грамадстве. Адбываецца барацьба зла з дабром... Ёсць гэткая секта сатаністаў... Калі дзяржава душыла царкву, сатана асабліва не выяўляў сваю дзейнасць. Таму, што мы рабілі тое, што хацеў сатана. Але, калі зараз развіваецца духоўнасць, калі ўсё паўстае з попелу, сатана, вядома, не можа супакоіцца: Як? Зноў жывая царква Хрыстова? Пачынае змагацца. Ну, а праявіць як яны сябе могуць? Вось толькі такім шляхам... Нянавісцю да другіх людзей. Нянавісцю да дабрыні, да праўды, да справядлівасці. Ды чаму тут? Мне здаецца, вельмі простыя адказ — тут знаходзяцца мошчы святой праведнай Сафіі Слуцкай. Тут цудатворны абраз менскай Божай Маці. Паколькі гэтая святыня з'яўляецца як бы цэнтрам нашага горада Мінска — сатане няма спакою. Ён павінен згодна са сваёй ідэалогіяй змагацца са святасцю.

**— Бацюшка, адкуль гэты вандалізм?**

— Гэта як вынік нашага выхавання. Як следства. Мы стварылі сваё выхаванне на амаральнасці... Сатана знаходзіць добрую глебу ў чалавечых сэрцах. Прыцягвае да сябе і яны прадаюць сваё сэрца і душу яму, а не Богу.

**— Калі не спыніць іх... яны ж могуць гэтак і астатнія саборы размаляваць...**

— Ужо было ў Брэсце гэткае... Там ёсць капліца, дзе ляжаць мошчы прападобнага пакутніка Афанасія Брэсцкага. Там было. Гэткія ж вось самыя словы напісалі. Потым у Клімавічах... Шмат выпадкаў у Санкт-Пецярбурзе, у Маскве. Пайшла нейкая хваля сатанінскай барацьбы супраць царквы.

Акрамя таго, што напісалі, абляялі гэтак святыню... Ці, лепш сказаць, выявілі сябе... Можа на іх ніхто ўвагі не звяртае?.. Дык яны вырашылі гэткім шляхам засведчыць аб сваім існаванні.

**— Кажуць яшчэ, што ў Вас машыну скралі. Гэта праўда?**

— Ведаеце, ужо шмат дадаюць...

**— Бацюшка, няўжо ніхто не бачыў, як размалёўвалі сабор?**

— Тут ёсць вартаўнік... Цяжка адказаць, чаму ніхто не бачыў... Я сам думаю — няўжо ўсе настолькі спалі?.. Але з боку камендатуры сцены не сапсавалі — пабаяліся...

**— Цікава... Калі заўважылі тое, што здарылася?**

— Я нават не ведаю, хто першы прыйшоў сюды ў царкву... Я, напрыклад, прыехаў а восьмай гадзіне — людзей было ўжо шмат. І служыў у гэты дзень.

**— Вы збіраецеся рабіць нейкі зварот? Да ўлады? Да грамадскасці?**

— Амаль усе былі тут. Пракуроры. Прадстаўнікі адміністрацыі прэзідэнта... Каб аднавіць абразы, патрэбны вялікія грошы.

Там, на крыжы, нават нейкая майка была ў крыві. Але міліцыя прыехала і чамусьці адразу яе зняла. Астатняе яны прасілі хутчэй заштукаваць... каб не прыцягвала ўвагі людзей. Я лічу : хай людзі крыху паглядзяць — выкажуць сваё абурэнне...

* * *

Як кажуць у народзе: "Пакуль Пярун не трэсне, чалавек не перахрысціцца". Сапраўды — у нас так... Я даўно не бачыў ля сабора столькі людзей, хіба што на свята...

* * *

У час свайго журналісцкага даследавання я даведаўся, што ў Мінску ёсць вельмі цікавы чалавек — эксперт па рэлігійных канфесіях, сектах. Праз вялікія намаганні мне ўдалося яго адшукаць і ўзяць інтэрв'ю... Розныя людзі яго называюць па-рознаму — адныя Лектарам, другія Братам...

* * *

Перад нашай гаворкай Н. зрабіў паўзу, пасля патлумачыў, што ў гэты момант чытаў малітву. Потым ён паглядзеў на мяне і перахрысціўся.

— Калі чалавек кладзе крыж, пальцы, пасля таго як дакрануліся да лба, павінны дакранууца да жывата, але не да сонечнага сплячення. Часам можна назіраць, што ў царкве людзі няправільна хрысцяцца. Самі гэтага не ўсведамляючы, яны парушаюць рытуал. Гэта прыклад таго, што часам лепшыя пачуцці вядуць да няправільных учынкаў. Людзі часта парушаюць правілы, аднак гэта не заўсёды ўсведамляецца. Але ўсё роўна яны



*Адны кажуць аб бездухоўнасці, другія сцвярджаюць адваротнае... Але тое, што адбылося ў ноч з 23 на 24 ліпеня, адстойвае выказванні першых... Гэтай ночу на кафедральным Свята-Духавым саборы размалявалі сцены і апаганілі абразы... Маё меркаванне і ўсіх маіх знаёмых людзей аднолькавае —варвары пасягнулі на падмурак нашай культуры... на гістарычны помнік нашага народа.*




за гэта атрымліваюць пакаранне. Тое, што адбылося ў кафедральным саборы, сведчыць, што царква парушае пэўныя правілы. У прыватнасці, кафедральны Свята-Духаў сабор. Ён быў звязаны з палітыкай. Сатаністы маглі выбраць любы храм.

**— Ці звязана гэта са святымі мошчамі?**

— Мошчы заўсёды ахоўваюць храм. Яны не могуць выклікаць агрэсіі.

**— Як тады можна патлумачыць учынкі сатаністаў?**

— Мяркуючы па фотаздымках, якія былі надрукаваны ў цэнтральнай прэсе, ёсць тры аспекты, якія тлумачаць падзею. Першы аспект — імкненне зняць комплекс непаўнавартасці, сцвердзіць сябе праз скандальны ўчынак, пра які даведаюцца ўсе. Другі аспект — свядомая апазіцыя да адной з хрысціянскіх канфесій, што выявілася ў напісанні знакаў праслявянскага пісьма. Трэці аспект, які быў заўважаны ўсімі, — дзеянне чорнай разбуральнай сілы, у дадзеным выпадку прадстаўленай сатанізмам.

**— А замах на беларускую культуру?**

— Тут няма замаху на культуру. Тым больш на нейкую нацыянальную. Гэта матэрыял для культуры. У тым ліку і для вашай газеты.

**— Як Вы патлумачыце, што ні вартаўнік, ні міліцыя, ні нагул простыя людзі не заўважылі сатаністаў?**

— Па вялікім рахунку — гэта папусціў Бог. Удакладняю, правілы дарожнага руху ў тонкім, астральным, інфернальным свеце кантралююць святары. На практыцы гэта выглядае так: калі чалавек падчас мерапрыемстваў адчувае небяспеку, ён звяртаецца за парадай да таго ці іншага рэлігійнага эгрэгора, той ці іншай рэлігіі. Тое, што адбылося ў саборы, абсалютна не залежыць ад грамадскіх ці дзяржаўных структур. Яно залежыць ад аўры людзей, якія звязаныя з гэтым саборам.

**— Якія вынікі будзе мець гэта падзея?**

— На юрыдычным узроўні дзяржаўныя органы могуць пакараць тых ці іншых людзей, якія звязаны з першым вышэйназваным аспектам. Усіх астатніх будзе судзіць Бог. Як ні парадаксальна, пасля падзеі ўзнікаюць светлыя думкі. Бяда яднае людзей. Падзея нам нагадвае пра тое, што магчымасць прыйсці ў чысты храм — гэта цуд, які дараваны нам Айцом. Нам нельга прызвычайвацца да цудаў.

* * *

Вось такі своеасаблівы каментар падзеі-трагедыі. Камусьці ён падасца падазроным, некаторыя будуць раззлаваныя. Але спецыяліст мае менавіта гэткае тлумачэнне сённяшняга няшчасця. Прозвішча Лектара па зразумелых прычынах не называю.

* * *

Праз некалькі дзён я атрымаў яшчэ адзін каментар.

**Намеснік старшыні Дзяржаўнай інспекцыі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Васіль ЧЭРНІК.**

— Тое, што здарылася з 23 на 24 ліпеня з кафедральным Свята-Духавым саборам, канечне, жахліва. Усе супрацоўнікі Дзяржаўнай інспекцыі абураны гэтым актам злачынства. 24 ліпеня я быў ля Свята-Духава кафедральнага сабора, бачыў усе сатаністкія надпісы.

Наколькі мне вядома, органы пракуратуры Цэнтральнага раёна Мінска ўзбудзілі крымінальную справу. У артыкуле 225 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь ёсць такія словы, што вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці незалежна ад таго, ці зрабілі яны гэта з намерам ці без намеру пашкодзіць гісторыка-культурную каштоўнасць. Гісторыка-культурная каштоўнасць пашкоджана. Вінаватыя павінны несці за гэта адказнасць. Наколькі мне вядома, гэта прагучала ў сродках масавай інфармацыі, знойдзены злачынцы. Гэта навучэнцы адной з мінскіх прафесійна-тэхнічных вучэльняў. Адзін на допыце адказаў: "Я — сатана". Злачынец лічыцца членам секты сатаністаў. Яны здзяйснялі, так сказаць, сваю праграму. Гэтая інфармацыя прагучала сёмага жніўня. Што да нас — Дзяржаўнай інспекцыі па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны, то мы не давалі каментару пракуратуры — да нас не звярталіся.

Свята-Духаў кафедральны сабор — гэта гісторыка-культурная каштоўнасць горада Мінска і ўсёй краіны...

* * *

На гэтым я спыняю сваё журналісцкае даследаванне. У маёй галаве склалася даволі акрэсленая карціна. Ёсць у горадзе Мінску цудоўны прыгожы сабор. Ёсць у горадзе праваахоўныя органы, якія, на жаль, не здолелі з 23 на 24 ліпеня абараніць сцены гэтага сабора ад сатаністаў. Ёсць у горадзе сатаністы, якія могуць ноччу размаляваць усё што заўгодна. Дзіўна, але факт —пасярод ночы можна спакойна зрабіць замах на самае каштоўнае. Сабор размалёўвалі не спяшаючыся — надпісы былі зроблены без граматычных памылак, з коскамі... Я зразумеў галоўнае: пакрыўдзілі ўсіх нас — увесь беларускі народ. Незалежна ад веравызнання кожнага. Словы Лектара выступаюць як нейкі лагічны дадатак. Здзіўляе, што ніхто з пракуратуры не звярнуўся да Дзяржаўнай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



СІТУАЦЫЯ

***"Кожны чалавек мае права ўдзельнічаць у культурным жыцці грамадства, атрымліваць асалоду ад мастацтва... Кожны чалавек мае права на абарону ягоных маральных і матэрыяльных інтарэсаў, што з'яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных альбо мастацкіх твораў, аўтарам якіх ён мае быць".***

*Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, 10 снежня 1948 г., артыкул 27.*




Мы з Лідзіяй Віталеўнай стаялі ў маленечкай майстэрні яе мужа-нябожчыка. На падваконні высокапрарэзанага акна ляжалі некалькі маленькіх каляровых каменьчыкаў, сярод якіх цёмным бліскучым аскепкам вылучаўся крэмень. На мальберце — аркуш ватмана. Неакрэслены накід вугалем. Апошні, ледзь пачаты твор Леаніда Лапчынскага.

— Што ён хацеў намаляваць?

— Не ведаю...

Два гады таму мастак у апошні раз пераступіў парог гэтай "майстэрні" памерам у пяць квадратных метраў. І — памёр нечакана, калі яму было толькі 58 гадоў. Бліскуча скончыўшы тэатральна-мастацкі інстытут, трыццаць два гады выкладаў у Мінскай мастацкай вучэльні. Ягоныя вучні сталі заслужанымі, лаўрэатамі, дыпламантамі, "праз" яго прайшлі шмат з тых, кім сёння ганарыцца Беларусь. Але ён, якога цанілі калегі-прафесіяналы, так і не быў прыняты ў Саюз мастакоў. Я бачыў ягоныя творы. Яны нібыта ўзнікаюць з "нічога"... І што, на мой погляд, безумоўна адчувае глядач — тонкасць, далікатнасць, душэўную вышыню мастака. Партрэты, пейзажы, горад, замкі... Людзі ды родная зямля — вось і ўвесь Лапчынскі.



*Леанід ЛАПЧЫНСКІ.*

Ён напісаў столькі карцін, што іх хапіла б не на адну персанальную выставу, але ён яе не дачакаўся. Дачакаліся палотны: калі мастак памёр, адбылася ягоная першая выстава. У Палацы мастацтва. Выстава мастака, які быў непадобны да іншых. (Магчыма, у гэтым — прычына ягоных "няўдач"...)

Быкаўскае "мёртвым не баліць" яшчэ раз узгадалася мне, калі я даведаўся пра жыццё Леаніда Васілевіча. Мабыць, мы любім нябожчыкаў таму, што яны нам не замінаюць. Я вось разважаю: як, напэўна, было дыскамфортна многім з былых вучняў і сяброў, ужо мэтраў, уплывовых і магутных генералаў ад мастацтва, ад таго, што іхні настаўнік (хаця б ён не ўмеў маляваць!) не з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў, што ніводнага разу за сорак гадоў у яго не было "сваёй" выставы. Ужо пасля смерці я чытаў іхнія артыкулы: якія словы, колькі пачуццяў! Але ж шмат гадоў ён, жывы, быў побач з імі. Вучыў маляваць і сам маляваў. Ужо такую дробязь, як уступленне ў той творчы саюз, куды каго толькі не прымалі!, — акцыя фармальная і ў творчым аспекце роўная нулю — маглі "зрабіць" для яго сябры. Творца — заўсёды дзіця. Яму патрэбныя любоў, фармальнае прызнанне: вось яна, кніжачка з залатым надпісам. (Смешна, але не вельмі.)

Лапчынскаму ўжо не патрэбныя пацверджанні ягонай прыналежнасці да творчасці: мёртвым не баліць.

Ці быў ён вялікім мастаком — я не ведаю, але давяраю аўтарытэтам, якія пішуць: "высокі талент", "тонкае пранікненне ва ўнутраны свет герояў", "высокі ўзровень каларыстычнай культуры", "ягоныя колеры гучаць дзівосная музыкай"...

І яшчэ адно, сугучнае з гэтымі развагамі: з кім бы я ні гутарыў пра Лапчынскага, усе ўжываюць адны і тыя ж словы: інтэлігент, адукаваны, працавіты, надзейны.

Тое, што я напісаў да гэтага, было неабходна, каб вы ведалі: размова ідзе пра адоранага мастака. А цяпер пра тое, дзеля чаго пісаўся гэты артыкул.

* * *

У рэдакцыю нашай газеты прыйшла ўдава Леаніда Лапчынскага і распавяла... Таго, што яна расказала, хапіла б для невялікага публіцыстычнага артыкула. Але Лідзія Віталеўна папрасіла: "Паедзем, самі паглядзіце..." У кожнага з нас безліч неадкладных спраў, але ці можна адмовіцца?

Паўтары гадзіны на электрычцы, і мы апынуліся ў цудоўным і цалкам беларускім куточку. Чыгунка прарэзвае вузкі калідор у лесе; дыхаецца так, як можа дыхацца толькі сярод дрэваў. Цывілізаваная сцяжынка праз мосцік над ярам і балотам вядзе да садовага таварыства "Супольнік", што непадалёк ад вёскі Баяры.

Праходзім каля велізарнага валуна, які напалову патануў у балоце. Злева, на схіле ўзгорка, — трохпавярховы недабудаваны катэдж. Я ўзгадваю, што менавіта тут праходзіў калісьці шлях магутнага ледніка. Мільёны гадоў таму...

— Камень ляжаў на ўзгорку, але калі пачалі будаваць катэдж, яго скінулі ў балота. А ён так утульна ляжаў...

— Мабыць, баяліся, што ён можа ўпасці на дом?

— Дык маглі б перасунуць убок, а не тапіць у балоце. Калі збіраюцца тут жыць. І дзеці з унукамі любаваліся б. Гэта ж твар зямлі.

Дзіўна разважала жанчына — дзіўна, але добра. Пазней я зразумеў, чаму яна ТАК "бачыць" камяні і ТАК пра іх гаворыць.

... Яна хадзіла па тэрыторыі сваёй дачнай дзялянкі памерам дваццаць на дваццаць метраў ад аднаго каменя да другога:

— Бачыце? Тут не хапае галоўнага каменя — ён завяршаў гэтую групу... Тут быў паліраваны, Лёня сам яго шліфаваў уручную... Чырвоны, ён быў "крэслам", — ўкралі. А гэта —"стол". "Крэслаў" засталося толькі два... А тут было некалькі "яек", чырвоных, з кавалачкамі слюды... Восем гадоў тут ляжала плоская "ступня". Скралі, але я знайшла яе і вярнула... Лёня даваў ім назвы: "Сабака", "Вартаўнік", "Парсюк", "Гарнітур", а кампазіцыя за плотам на вуліцы называлася "Града"... Сусед прыходзіць: "Я буду падмурак рабіць і вазьму ў вас вось гэтыя камяні..."

— Так і сказаў?

— Так... Гэта дазваляе зэканоміць шмат цэменту. Ён зараз дорага каштуе...

Больш за сто камянёў знеслі. Сто наведванняў Аціллы, сто мікраналётаў татара-манголаў.

—... іншы раз прывязе новы камень, накрые яго мехам, нібы жывога, і некалькі дзён ходзіць, разважае, прыдумвае, куды і як яго размясціць у экспазіцыі... Ён жа быў мастаком... А яны...

Адразу за хатамі таварыства (як здзек гучыць цяпер для мяне гэтая назва) на ўзгорку пачынаецца найпрыгажэйшы бярозавы гай. Яго пачалі паціху высякаць... На дровы. І зямля вызваляецца "для справы". Дрэвы знікаюць, гэтак жа ціха, як і камяні Лапчынскага.

"Далёка на краіну пайшоў чалавек", — сказаў мне падчас гутаркі мітрапаліт Філарэт. Праз два гады, стоячы на чатырох абрабаваных сотках мастака (і калі б толькі аднаго яго абрабавалі!), я б здолеў у думках працягнуць размову з іерархам: "Гэтак далёка, Уладыка, што ўжо і невядома, ці здолее вярнуцца..." Што ж рабіць? Але тут раптам узнікла ў свядомасці малітва Рыгора Барадуліна: "Калі самі мы нямоглыя і падупалыя духам, калі не маем пакуль што вярнуцца ў Беларушчыну, дык паўторым следам за прарокам нацыянальнага Адраджэння Янкам Купалам: "Вярні, вярні нам Бацькаўшчыну, Божа..."

Але ж такім, якія мы ёсць — моўчкі глядзяць на нас нябёсныя камяні Беларусі — такім, без святла ў душы, — не верне.

Адна расійская газета назвала Бетховена невідушчым. "Якія бескультурныя людзі" — паморшчыўся адзін знаёмы. Я распавёў яму пра тое, як раскрадаюць "маленькую Беларусь" на лецішчы мастака. "Ну і што? Гэта ж проста камяні..." — запярэчыў ён няўпэўнена. А я суцешыў сябе: "Мы прыходзім ды адыходзім, але культура застаецца". (Калі я ўжо цалкам заглыбіўся ў прастору гэтых нататак, адчуў яе, дык зразумеў: калі мы будзем прыходзіць і адыходзіць моўчкі, дык ад культуры нічога не застанецца, акрамя катэджаў ды лазняў.)



*Л. ЛАПЧЫНСКІ. "Ваколіца-ІІ". Алей, 1976.*

Хто яны, тыя, хто жывуць у цудоўных мясцінах, сярод запаветных прыродных краявідаў? Навукоўцы? Чыноўнікі? Вайскоўцы? Адстаўнікі? Я не пайшоў да іх, не пагрукаў у ніводную брамку. Кім бы яны ні былі — не істотна, бо прафесію можна набыць. Але сумлення — ніколі. Самая яскравая рыса чалавека-каменя — адсутнасць сораму. Менавіта гэтая адсутнасць і дазваляе яму (якая розніца, дзе і кім ён працуе?) увайсці ў чужую хату і ўзяць чужую рэч... Паводле закону, у дадзеным выпадку скрадзена інтэлектуальная ўласнасць. Тое, што зразумела нармальнаму чалавеку, да злодзеяў не "даходзіць" (а калі "даходзіць", дык яны ўжо не толькі злодзеі...). Гэтыя людзі, выдзіраючы чарговы камень з ансамбля, зноў і зноў забіваюць ужо мёртвага мастака.

... Удава звярнулася да старшыні таварыства, маўляў, крадуць. "Хіба гэта крадзеж — камяні? — адказалі ёй. — Вось калі б вы прынеслі дакумент, што яны з'яўляюцца мастацкай каштоўнасцю..." Прынесла. На бланку Беларускага фонду культуры пад нумарам 85 ад 4 чэрвеня 1996 г. Адрасат: "Садовае таварыства "Супольнік".

Шаноўнае спадарства!

Беларускі фонд культуры і вядомыя дзеячы культуры — скульптары паважліва просяць Вас адказна аднесціся да захавання спадчыны мастака Леаніда Васілевіча Лапчынскага — "каменевага ансамбля", які ён стварыў на прысядзібным участку ў Вашым таварыстве.

Фонд культуры, Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь плануюць у будучым перанесці гэты "Каменевы ансамбль" у горад Мінск з мэтай стварэння мемарыяльнага музея сучаснага мастацтва імя Л.В.Лапчынскага".

Далей ідуць сем прозвішчаў вельмі паважаных і вядомых мастакоў і скульптараў. Пачынаецца спіс з прозвішча старшыні Саюза мастакоў.

І што ж? Працягваюць красці.

Напрыканцы свайго кароткага жыцця Шукшын закрычаў на ўсю краіну Саветаў: "Што ж з намі адбываецца?" Ужо адбылося, Васіль Макаравіч. Не магло не адбыцца. "Унутраны і вонкавы крах культуры быў прадвызначаны станам светапогляду". Наш чалавек, калі ён азірнецца і нікога не ўбачыць побач, можа вельмі лёгка выразаць кавалак з палатна Рэмбранта, каб закрыць шчыліну ў сваім свірне.

Чэхаўскі небарака з чыгуначнымі гайкамі ў параўнанні з сучасным катэдж-камп'ютэрным і джынсава-блайзерным дзялком, які выйшаў з рыначнага сацыялізму, — проста святы, бо той хаця б не ведаў, што рабіў. А наш — ён ведае, паганец, памятае ўсё, што калісьці вучыў. Але светапогляд перамог: не здолее ён нічога зрабіць супраць пячоры, якая жыве ў ім тысячы гадоў: супраць жабрацтва, цемры, пустога страўніка і бязглуздзіцы. Ён, наш, яшчэ памятае, як хлопчыку ламалі кіем пальцы за тое, што той камнем па камені высек у дальнім куце цудоўную карціну —паляванне на зубра. Пячору заўсёды палохае нязвыкласць аднаго сярод многіх, яна баіцца адухоўленасці. Трэба мяса здабываць. І ўсё! А хто не скараецца, таго...

... Шмат гадоў таму ў Прыбалтыцы звёў мяне выпадак з інжынерам-геолагам з Арменіі, які вырас у Грузіі і працаваў на Орскім металургічным камбінаце. Каля Орска знаходзіцца адно з самых буйных на планеце радовішчаў яшмы. Калі мы сустрэліся, гэты інжынер быў ужо адным з самых вядомых калекцыянераў-"яшмістаў" у СССР. Ён вылучаўся сярод звычайных калекцыянераў тым, што ўвесь свой велізарны збор сам знайшоў, распілаваў, адшліфаваў і аздобіў металам. Ён падарыў Орску цэлую карцінную галерэю пейзажнай яшмы. Мне дасталіся ў падарунак тры бярозы на беразе фантастычнай горнай ракі. Мае госці не верылі, што гэта "намалявала" прырода і, правяраючы, мацалі халодны бліскучы камень рукамі.

Гэты інжынер распавёў мне наступную гісторыю. Адкапаў ён неяк яшмавы камень, замацаваў яго на варштаце, уключыў матор і пачаў чакаць. Пілаваць камень трэба марудна, каб не раскалоць яго і не сапсаваць. Прайшло два дні. Нарэшце, самародак распілаваны. Узяў інжынер вільготную анучу, абцёр камень...

"... Я ледзь не страціў прытомнасць... Я ўжо чвэрць стагоддзя займаюся яшмай. Я ведаю яе, адчуваю, але каб гэткае... З мора, працягваючы да мяне рукі, выходзіла аголеная жанчына, і вецер гуляў у яе доўгіх валасах.. Яна ішла да мяне на гэтае спатканне мільёны гадоў... У майстэрні ціха зіхацела цудадзейнае святло. Гэта быў адзін з са-

СІТУАЦЫЯ

мых шчаслівых дзён у маім жыцці. Тады я зразумеў сэнс выказвання: "Калі б камяні маглі гаварыць..."

Калі я стаяў ля разбуранай кампазіцыі, складзенай з беларускіх камянёў Леанідам Лапчынскім у апошнія ягоныя зямныя дні, узгадаўся той інжынер, ягоныя камяні, спатканне з жанчынай праз мільёны гадоў, якое ўсё ж адбылося.

Узгадаліся таксама валуны на магілёўскай магіле Канстанціна Сіманава і прамова Міхася Тычыны на адкрыцці помніка — прыроднага валуна на магіле Алеся Адамовіча. Міхась дзякаваў людзям за дапамогу і, асабліва, — Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму, які не пашкадаваў адзін з самых лепшых камянёў з ручынскага музея валуноў для магілы Адамовіча. Не магу не працытаваць урывак з гэтай прамовы: "... Алесь любіў вялікія камяні, заўжды спыняўся каля іх. Гэта нагул у характары беларуса: у камені ён бачыць пасланца Сусвету, успрымае яго як фрагмент нейкага невядомага боскага стварэння. У камені канцэнтруюцца сонечнае святло і сонечная цеплыня — патрымайце некалькі хвілін далонь каля яго, і вы адчуеце і гэтае святло, і гэтую цеплыню"...

# ...одзі, ...мяні

... — Напрыканцы сонечнага дня, увечары, калі Лёніны камяні аддавалі цеплыню, у нас на лецішчы утваралася цудоўная атмасфера, мікраклімат. Было так утульна і так добра... Усё зелянела на некалькі дзён раней, чым у суседзяў. І душы было цёпла, — так сказала Лідзія Віталеўна, калі мы хадзілі на маленькім лецішчы па камянях Лапчынскага, дзе чалавек нібы прыўзняты над узроўнем свайго існавання на вышыню гэтых камянёў. Высілкам рук і душы, з дапамогай Сусвету мастак падняў сябе над сённяшнім побытам і нявартымі каштоўнасцямі. І нам пакінуў добры знак...

Няўжо не задумваліся злодзеі, хаця б на імгненне, ШТО яны "ўзялі" з каменнай, але такой жывой карціны мастака? Узялі, каб зэканоміць пару мяхоў цэменту, каб абагараваць свае лазні цеплынёй гэтых пакрадзеных валуноў. Няўжо не палохаюцца яны прышэсця Каменнага госця — вечнага вартаўніка мастацтва і прыгажосці?!

Я мяркую, што ў дадзеным выпадку словы паэта пра Божы суд могуць быць не толькі рыторыкай. Жыццё ўжо не раз даводзіла, што містыка не такая ўжо і містычная.

Зямля — жывая касмічная істота — ужо не ў стане ўвабраць столькі зла, колькі мы "ўтвараем". Тут можна ўзгадаць і тых траіх, якіх расстралялі за жудасны гвалт і забойства маладзенькай дзяўчыны. Яны гвалтавалі яе ўтраіх, загадзя спаласаваўшы нажом. "Каб варушылася", — заявілі забойцы падчас суда... Узгадваюцца таксама і д'ябальскія надпісы на галоўным храме Беларусі, і сотні іншых злачынстваў, у тым ліку і разбураны каменны ансамбль Леаніда Лапчынскага. І чаму б не ўявіць сабе, што менавіта гэтае, здавалася б, невялікае злачынства — крадзеж зямных камянёў з кампазіцыі мастака і ёсць тыя часцінкі Зла, якія спыняць кола прагрэсу. Хіба ведае чалавек, хіба магчыма пралічыць, чым адгукнецца забітая радасць, патушаная ўсмешка, прыніжаная душа...





У гэтых "людзей" алергія на белае: на чысціню, нязвыкласць, непадабенства. Калі табе добра і ты вырабляеш ляльку для ўнука — ім кепска. Вершы і кветкі для жанчыны, узыходжанне на гару альбо малітва ў храме, паездка на магілу Пушкіна ці начная размова з сябрам... "Колькі табе заплацілі?" — папытаюцца яны.

Якія камяні?! Якія карціны?! Навошта ён выразаў у сваім доме вокны пад столлю, а не так, як ва ўсіх? Каб не ўпірацца позіркам у сцяну майго катэджа? Каб бачыць неба? Навошта? Не, адкажы, на-вош-та? Нармальныя людзі парсюкоў гадуюць і — на рынак! І — грошы! Гэта ж так зразумела. Грошы! І многа ежы, гарэлкі і баб, ба-б!..

Навошта яму сотні камянёў, што толькі дарэмна займаюць месца? Ён хоча быць лепшым за нас? Ён прыніжае нас гэтай незразумелай справай. Навошта яны яму? А хаця яны мне і не патрэбныя — усё роўна пакраду і выкіну. Не мне, дык і нікому. Мне гэтага не трэба, але і яму хай не будзе!

... — Вечарамі, калі спускаецца туман з балота, у нас было так утульна. Камяні не пускалі туман, сагравалі зямлю і паветра... Было нібы ў раі... Я хацела б аддаць гэтае лецішча Саюзу мастакоў. Хай бы памяць пра Лёню была. У мяне ж няма нікога.

З цяжкім сэрцам ад'язджаў я з разбуранай Беларусі, пабудаванай Лапчынскім...

**Навум ЦЫПІС**

**P.S.** Гэтыя нататкі павінны былі быць праілюстраваныя не толькі фатаграфіяй Леаніда Лапчынскага. Наш фотакарэспандэнт Генадзь Жынкоў атрымаў заданне сфатаграфаваць "камяні" мастака. Але Лідзія Віталеўна раптам сказала: "Не трэба..." Гэта было нечакана. Пасля такога рашучага і гарачага — захаваць, вярнуць, пакінуць — гэтае незразумелае: "Не трэба..."

Я не мог нават уявіць сабе прычыну, а яна аказалася вельмі простай і "сучаснай". "Першыя камяні пакралі пасля таго, як суседзі паказалі сваім гасцям з Нямеччыны Лёніну кампазіцыю, і тыя былі вельмі ўражаныя. Тады зніклі адразу некалькі дзесяткаў самых прыгожых камянёў. Калі зараз апублікаваць фотаздымак... Я баюся, што зноў пачнецца масавы крадзеж..."

**P.P.S.** Матэрыял гэты напісаны не за адзін дзень. Калі ўжо ён быў падрыхтаваны, Лідзія Віталеўна паведаміла мне, што скрадзены яшчэ некалькі адметных камянёў. І тады я зразумеў, што не я павінен быў пісаць, а Саюз мастакоў і Беларускі фонд культуры, і не артыкул у газету "Культура", а заяву ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

**Н.Ц.**

КАРАНІ

# ПРЫЙДЗЕ СПАС — НАСЫЦІЦЬ НАС

СПАСАЎСКІЯ святкі ў беларускім народным календары складаюцца з трох частак: 14 жніўня — Першы, або Мядовы Спас, Макавей, 19 жніўня — Другі Спас, які называюць яшчэ — Вялікім, Сярэднім, Яблычным, і 29 жніўня — Трэці, ці Малы, Хлебны Арэхавы Спас.

Характар земляробчай працы зводзіўся ў гэты перыяд да ўборкі ўраджаю з палёў. Дажыналі жыта, пачыналі ўборку яравых: пшаніцы, ячменю, аўса, проса. У садах даспявала садавіна: яблыкі, грушы, слівы, якія,у залежнасці ад выспявання, пачыналі здымаць у жніўні. Вырасла свежая гародніна: морква, бурак, рэпа, бручка, рэдзька, ранняя капуста, бульба — ва ўсякім разе кожная гаспадыня ўжо падавала падобныя ласункі да стала. Выспелі і бабовыя культуры: боб, гарох, фасоля, якія таксама ўбіралі пачынаючы са жніўня. Шчодра надзялялі чалавека сваімі дарамі мясцовыя лясы і пушчы. Здавалася, што ўся прырода, як бы змовіўшыся паміж сабою і пашкадаваўшы чалавека напрыканцы бедных мінулагодніх запасаў ежы, якой у многіх сялянскіх сем'ях ледзьве хапала да новага ўраджаю, шчодра дзялілася з чалавекам працы сваім багаццем. "Спасаўка — ласаўка", або "Прыйдзе Спас — насыціць нас", — адзначалі сяляне, але адначасова і павучалі: "Спас — усім рабочы час". Трэба было спяшацца забраць гэтыя дары прыроды, маці-зямлі, захаваць іх, назапасіць на ўвесь наступны год, які б дазволіў чалавеку ўпэўнена пачаць новы віток жыцця.

Прыпомнім, што ўвесь папярэдні час чалавек, які працаваў на зямлі, маліў Духаў і Багоў аб добрым ураджаі, спрыяльным надвор'і — і вось нарэшце яго маленні збыліся, апраўдаліся, цяпер усё залежала ад таго, наколькі ён сам пастараецца сабраць вырашчанае. Таму ў Спасаўку, убіраючы ўласнае поле ці прыносячы пэўныя здабыткі з поля або з лесу, земляроб імкнуўся аддзячыць спрыяючых яго дзейнасці Духаў і Багоў за новы ўраджай. Так, падобна язычніцкай каляднай куцці, якую тройчы на пачатку года падавалі на стол дзеля прыбытку ў гаспадарцы і будучага ўраджаю, цяпер тройчы селянін прыносіў Спасу і іншым Духам і Багам свае ахвяраванні з новага ўраджаю ў падзяку за іх спагаду да яго.

У язычніцкай рэлігіі Спас — гэта бажаство, якое ўвасобіла ў сабе Духа ўраджаю, а магчыма, што нават узначальвала цэлы пантэон Духаў поля, лесу, лугу і г. д. У доказ гэтаму варта напомніць, што непасрэдна да Спаса беларусы звяртаюцца ў многіх сваіх маленнях, прашэннях, замовах, абрадавых песнях. "...Святы Спас, спасі нас, спасі нашу душачку!" або "Святый Спас, памілуй нас!..", — моляць набожныя людзі, калі іх напаткае нястача ці гора. У замовах ён уяўляецца як "Спас Спасіцель з дзвінаццацімі апосталамі", зверху якога ідзе ці ляціць "Сіла святая Гасподняя". У валачобных песнях Спас — гэта памочнік хлебароба: "Святы Іспас — старэнькі дзядок, на восець садзіў, жыта малаціў...", "Святы Спас па полі ходзіць, копы лічыць, раскладаець: гэта на семя, гэта на емя!..", "Святы Іспас, гнаі возіць...", "Святы Спас едзець у поле, ды зямельку мяшаець, прыгатаўляець...", "яблыкі свенціць".

Пазней хрысціянства зрабіла сваё ідэйнае напластаванне на Спасаўскія святкі. Па-першае, з 14 па 27 жніўня быў уведзены пост, які ў народзе называюць спасаўскім, або спажынным постам. Па-другое, відаць, не выпадкова з усімі трыма святочнымі спасаўскімі днямі супадаюць хрысціянскія святкаванні: 14 жніўня — свята ў гонар Усяміласцівага Спаса і Прасвятой Багародзіцы, якое ўведзена ў XII стагоддзі і звязана з вайной князя Андрэя Багалюбскага супраць волжскіх балгар у 1164 годзе, 19 жніўня — "пераўтварэнне Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста", што адбылося нібыта ў Ізраілі на гары Фаворскай, незадоўга да распяцця сына Божага, калі вучні яго ў час малення раптам убачылі Хрыста ў белым адзенні, твар яго асвяціўся сонечным святлом, а голас з неба мовіў: "Сей ёсць Сын Мой любімы, у якім уся мая добрая воля, яго слухайце!"; і 29 жніўня святкуецца ў гонар Нерукатворнага Вобраза Ісуса Хрыста, які атрымаў з рук Сына Божага і прынёс у сірыйскі горад Эдэсу мастак Ананій дзеля выратавання ад цяжкай хваробы свайго правіцеля Авгара. Пазней, у 944 годзе імператар Канстанцін Багранародны выкупіў і перанёс гэту хрысціянскую святыню з Эдэсы ў тагачасную сталіцу грэка-візантыйскага хрысціянства —Канстанцінопаль і перадаў на захаванне ў Фароскую царкву Прасвятой Багародзіцы, чаму ў хрысціянскіх рэлігійных календарах гэты дзень пазначаецца як "перанос з Эдэссы ў Канстанцінопаль Нерукатворнага Вобраза Госпада Ісуса Хрыста". Па-трэцяе, не асіліўшы старажытныя вераванні і погляды селяніна на Спасаўскія святкі, царква часткова асімілявала іх у сваёй ідэйна-рэлігійнай канве і, як і ў спрадвечныя часы, па меры выспявання свенціць на ўсе тры святкі вырашчаную гародніну, садавіну, зерневыя і іншыя культуры, частку якіх хрысціянскія вернікі пакідаюць на ахвяраванне ў Божым храме.

У сённяшняй культурнай спадчыне беларусаў Спасаўскія святкі ўяўляюць сабой аднадзённыя маленні ў царкве і рытуальныя застоллі ў коле сям'і.

На першы Спас свенцяць мак, жанчыны пякуць з новага хлеба праснакі, варэнікі, пірагі з макам. У беларускай традыцыйнай абраднасці маку надавалася значэнне ахоўнага сродку ад ведзьмакоў і дэманічных істот. Таму асвечаны мак захоўвалі, як і святую ваду, на працягу ўсяго года. На Тураўшчыне і Гомельшчыне на Макавея макам абсявалі гаспадарчыя пабудовы і хату "от небожчыкаў". Гомельскія сяляне пяклі пірагі з асвечаным макам і морквою, лічылі, што "на Макавея трэба ўволю наесціся маку". У беларускім агародніцтве вырошчванне маку займае немалаважнае значэнне. Напрыклад, на Палессі і сёння кожная гаспадыня вырошчвае да дзесятка кілаграмаў маку, які шырока выкарыстоўваецца ў народнай кулінарыі. Любімым ласункам як дзяцей, так і дарослых з'яўляецца мачанка з маку, для прыгатавання якой таўкуць мак, дабавіўшы ў яго крышачку вады і цукру, а потым мачаюць у атрыманую масу аладкі, бліны, перапечкі, хлеб. Паводле запісаў Е.Р.Раманава, у мінулым стагоддзі на Першы Спас паўсямесна рабілі крыжовае шэсце да вады — служылі "водяную отправу" і свянцілі ў царкве садовыя кветкі і гародніну. Асвечаныя кветкі, як зазначае вучоны, "кідалі ў ваду, у якой купалі хворых дзяцей".

Другі Спас — гэта асноўнае і галоўнае спасаўскае свята ў беларусаў. У гэты дзень катэгарычна забараняецца працаваць. Свенцяць у царкве яблыкі, грушы, мёд, а на поўдні Беларусі семяннoе жыта. Ва ўсе часы нашы продкі беражліва ставіліся да вырошчваемага ўраджаю, зыходзячы з чаго толькі ад Другога Спаса дазвалялася есці яблыкі і грушы, якія да гэтага часу канчаткова даспелі і былі прыгодныя для ежы. Падобныя вераванні нашых продкаў асабліва тычыліся жанчын. Гаварылі, што ў жанчыны, якая пакаштуе раней тэрміну яблыкі або грушы, будуць паміраць дзеці. Шырока вядома на Беларусі паданне пра тое, што калі жанчына, у якой памёрлі дзеці, будзе есці да Яблычнага Спаса, то на тым свеце ў Спасаў дзень Бог раздае ўсім дзеткам "райскія яблычкі", а яе дзіцяці не дасць, спаслаўшыся, што яго яблычка з'ела маці. Найбольш набожныя людзі павучалі, што маці,якая дапусціла такі грэх, нельга есці садавіну на працягу сарака дзён пасля Спаса і толькі такім чынам можна апраўдаць перад Богам сваю віну. На Другі Спас пяклі пірагі з яблыкамі або мёдам, пяклі яблыкі ў печы, варылі яблычныя кампоты і кісялі, рабілі мядовы квас. Ад Першага да Другога Спаса пчаляры вымалі з вулляў запоўненыя рамы з сотамі або падразалі іх. Шматгадовыя назіранні падказвалі, што ад Спаса пры запоўненых сотах пчолы зніжаюць актыўнасць медазбору, чаго нельга было дапусціць. Ведаючы пра гэта, гаспадары забіралі на сваіх пасеках пэўную колькасць напоўненых мёдам рам. У святочны дзень пчаляры частавалі спасаўскім мёдам сваіх знаёмых, сяброў і ўсіх, хто заходзіў на свята да іх у двор. У народзе бытуе павер'е, што толькі шчодрага пчаляра і ў будучым годзе "Бог надзеліць" багатым медазборам і добрым раеннем пчол. Палохалі таксама: калі пчаляр не пачастуе суседскіх дзетак мёдам, то ў яго "прападуць пчолы". У асобных праваслаўных прыходах Спаса насілі ў царкву мёд у сотах на ахвяраванне Богу і Духам памерлых продкаў.

Трэці Спас характарызаваўся заканчэннем асноўных уборачных работ. Паўсямесна свянцілі семяннoе зерне для пасеву азімых культур. Дзеці збіралі ў лесе арэхі, грыбы, ягады. З гэтага часу засальвалі і марынавалі на зіму асеннія грыбы: чорныя грузды, апенькі, лісічкі, рыжыкі. На полі заканчвалі ўборку бульбы, капусты, гарбузоў. Аратыя пераворвалі на зіму поле, рыхтавалі глебу для пасяўной азімых.

На працягу Спасаўкі павінна была адбыцца "рабінавая ноч", якая вызначалася моцнай навальніцай. На Рагачоўшчыне тлумачаць, што ў гэту ноч чэрці выходзяць з пекла, каб адзначыць нейкае сваё важнае свята, а Ілля-прарок, даведаўшыся пра гэ "паліць іх, нячыстых, перунамі". Шматлікія народныя календары тлумачаць таксама, што ў такую ноч нібыта з'ядноўваюцца сілы прыроды, каб даць адпор "нячыстай сіле", і што такая ноч патрэбна, каб выспелі ягады рабіны.

Са Спасаўскімі святкамі ў нашага народа звязаны некаторыя павер'і і прыкметы. Варажылі аб ураджаі: калі на Макавея ідзе дождж, спадзяваліся, што ў лесе будзе многа асенніх грыбоў; аб пачатку зімы і яе норавах: калі буслы збіраліся ляцець у вырай за тыдзень да Другога Спаса, то зіма будзе ранняя і марозная, а калі пасля Спаса, то наадварот — восень чакалі цёплую і доўгую, а зіму познюю і ветраную. Дзяўчаты на Першы Спас, калі бралі каноплі ці прасявалі канапляныае зерне, загадвалі:

*Макавею, Макавею,*
*Я на табе канапелькі сею,*
*Скажы мне, Макавею,*
*Дзе мая пара,*
*Каб я з ім у гэту ноч*
*Канапельку брала!*

І чакалі, што ў сне прысніцца "суджаны". Спасаўскі перыяд быў небяспечны для пажараў, якія маглі ўзнікнуць у час сушкі снапоў у ёўні або ад навальніц. На Магілёўшчыне папярэджвалі: "Калі на Макаўе не бывае даждж у , то будзе шмат пажараў".

**Уладзімір СЫСОЎ,**
**фалькларыст, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі.**





Пры Аснежыцкім раённым цэнтры культуры Пінскага раёна працуюць тры аматарскія аб'яднанні — фальклорнае "Спадчына", маладзёжнае "Гаспадынька" і харавое. На базе цэнтра наладжваюцца конкурсы, канцэрты, фестывалі.

*На здымку: удзельнікі аб'яднання "Спадчына" Ірына Грыцэня, Вера Васкалей, Ніна Васковіч, Таццяна Палюховіч і Ева Калюта падчас чарговай рэпетыцыі.*

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

ПАСОЛЬСКІ КЛУБ

# ДА ПАБАЧЭННЯ, ПАН МАРЭК! ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ПАН ПАВЕЛ!

*(Пачатак на стар. 1)*

**— А калі Вы з'едзеце на радзіму, хто вас заменіць на пасадзе дырэктара гэтага інстытута?**

— Той чалавек, які заступае на маю пасаду, гэта першы сакратар пасольства Павел Пшэцішэўскі, ён будзе працаваць як адказны за культурнае і навуковае супрацоўніцтва, а таксама за працу Польскага інстытута ў Мінску.

**— Ці засталіся ў Вас задумы, якія Вы хацелі б здзейсніць, але Вы не паспелі іх здзейсніць ці проста не ўдалося?**

— Па-першае, я не змог зрабіць, каб у Мінску адкрылася польская кнігарня, па-другое, каб была сталая дастаўка польскай прэсы ў Саюздрук. Але чаму я не мог зрабіць?.. Таму што структуры, якія займаюцца выдавецтвам у Польшчы і Беларусі не адпавядаюць адна адной. А перарабіць гэта немагчыма. Калі зменіцца на Беларусі эканамічная сітуацыя, якая дазволіць існаваць такому супрацоўніцтву, то гэткае супрацоўніцтва самастойна і паўстане.

Але што ёсць — з'явіліся польскія бібліятэкі, зразумела, што ў асяроддзі палякаў і ў польскіх школах, бо яны там больш патрэбны, неўзабаве адкрыецца бібліятэка з чытальнай залай у Польскім інстытуце, дзе будзе даступная польская прэса.

**— Дзякуй за размову.**

* * *

**— Пан Пшэцішэўскі, Вы заступаеце на пасаду першага сакратара, які курыруе пытанні культуры, Польскай амбасады ў Беларусі. Раскажыце трохі пра сябе.**

— Па- першае, хачу папрасіць прабачэння, што буду адказваць па-руску, я тут толькі паўтара тыдні, але спадзяюся, што праз паўгода пачну ўжо размаўляць па-беларуску. Зараз шмат чытаю на беларускай мове, стараюся спасцігнуць яе законы.

Што сказаць пра сябе. Напэўна важна, да якога пакалення я належу. Я пяцьдзесят пятага года нараджэння, значыць, належу пакаленню "Салідарнасці", нават трошкі ранейшаму. Я пачаў вучобу ў інстытуце, калі ў нас пачаліся першыя пратэсты. Тыя гады для нас былі як бы ўрокам станаўлення, сплеаслі грамадскага мыслення, праверкай якасці ўсведамлення па арганізацыі сваёй дзяржавы, што пасля паказаў 1989 год.

Я скончыў гістарычны факультэт [illegible]шаўскага універсітэта, займаўся гісторыяй Расіі, гісторыяй рускай думкі, напісаў дыплом, а затым дысертацыю аб грамадскай думцы Бярдзяева. Пісаў пра Расію ў нашым самвыдаце, таму што ў Расію я пачаў ездзіць даволі даўно, першы раз бўў у 1976 годзе. І вялікае значэнне надаю таму, што ўдалося пазнаёміцца з айцом Аляксандрам Менем. І затым Расію прымаў, так бы мовіць, вачыма Аляксандра Меня. Я глыбока пераканаы, што гэта святы чалавек.

А пасля я напісаў колькі артыкулаў у розныя часопісы, перадусім у хрысціянскія самвыдатаўскія, і калі ў нас у 1989 годзе нарадзілася незалежная Польшча, аказалася, што чалавек, з якім я блізка супрацоўнічаў у самвыдце, узяты на пост загадчыка аддзела Усходняй Еўропы ў нашым Міністэрстве замежных спраў, і яму трэба было памяняць склад нашых прадстаўніцтваў. Тады ён мяне адправіў у Санкт-Пецярбург, па тым часе (летам 1990 года) яшчэ Ленінград, у консульства. Такім чынам я стаў віцэ-консулам па палітычных справах у Ленінградзе. А пасля амаль чатырох гадоў, якія я правёў там, мяне адправілі ў Талін.

**— І кім Вы працавалі ў Таліне?**

— Другім сакратаром па палітычных пытаннях.

**— А ў Беларусь Вы трапілі, так бы мовіць, на культурную глебу...**

— Гэта было мае рашэнне. Тут, на Беларусі, можна сказаць, польская культура, таксама як і руская культура, з'яўляецца часткай беларускай культуры і самае важнае, каб яе вярнуць настолькі, наколькі беларусы зацікаўлены нашым досведам...

**— Досведам падтрымкі і развіцця культуры?**

— Не толькі... Я культуру разумею і ў плане творчасці, але і ў грамадскім плане. Тое, што мы ўжо стварылі ў Польшчы. Напрыклад, самакіраванне, прафсаюзы, роля парафій, як каталіцкіх, так і праваслаўных. Тое, што складваецца ў дэмакратычнае грамадства. Гэта таксама досвед нашай культуры, які мы абавязаны перадаць.

**— Што больш за ўсё Вы жадаеце зрабіць на Вашай новай пасадзе?**

— Чым болей паглыбляешся ў праблемы, тым ярчэй тыя праблемы бачыш і адчуваеш, што трэба рабіць. Прыехаў сюды, каб падтрымліваць існаванне той інфраструктуры, якую стварыў мой папярэднік Марэк Галкоўскі. Значыць, усё працягваць.

А ў нечым хацелася б і пашыраць... Каб можна было запрашаць з Польшчы як мага болей людзей, у якіх дэмакратычныя погляды і якія выступаюць сведкамі таго станоўчага, што нам удалося ў Польшчы.

**— І якім чынам Вы хочаце гэта зрабіць?**

— Сустрэчы, даклады, фестывалі. Проста хачу пашырыць лік разнастайных імпрэз, каб атрымалася рэгулярная праца. Гэта як бы доўг Польшчы перад Беларуссю. Я добра ўсведамляю, што сярод былых палякаў столькі людзей з беларускімі каранямі. Яны шмат карыснага зрабілі для Польшчы, і мы павінны пастарацца зрабіць тое самае для Беларусі.

**— Дзякуй вялікі. Поспехаў Вам на новай пасадзе.**

# КАБ ТРЫУМФАВАЛА ПРАЎДА

30 ліпеня сёлета ў Доме ветэранаў адбылася прэзентацыя кнігі беларускага журналіста Яўгена Гарэліка "Курапаты, польскі след". У зале сабраліся прадстаўнікі розных грамадскіх таварыстваў Польшчы і Беларусі, супрацоўнікі навуковых устаноў, прэса.

Прадстаўляў новае выданне саветнік па культуры польскай амбасады ў Беларусі Марэк Галкоўскі.

Кніга выдадзена ў польскім выдавецтве "Rytm" на польскай мове, пераклад зрабіла вядомая як у нас, так і ў сябе на радзіме, журналістка Уршуля Мікалайчык. А пасадзейнічала выхаду ў свет гэтай кнігі Польская рада аховы памяці ахвяр вайны і рэпрэсій.

Пра сваю працу над кнігай распавёў аўтар.

— Кніга — гэта ланцужок фактаў. Я — канстататар фактаў, і гэта адчуваецца на яе старонках. Тут вы не знойдзеце аналізу, якога патрабуе гэтая праблема. Такі аналіз павінна зрабіць усё грамадства. Але зрабіць яго нашаму грамадству пакуль не вельмі проста. Так, у пракуратуры тая самая курапацкая справа складалася напачатку з дзевяці тамоў, потым з трынаццаці, а цяпер яшчэ дададзена два тамы.

Вакол Курапатаў многа спекуляцый, інсінуацый. Я неаднаразова выступаў і ў прэсе, і даводзілася гаварыць з апанентамі, гэта ў асноўным прадстаўнікі ветэранаў, я іх паважаю, але яны чамусьці ўсю сваю энергію стараюцца накіраваць на тое, каб даказаць, скажам так, свае тэорыі. Фактаў у іх няма, а замест іх пэўнае бачанне праблемы.

Таксама вельмі цяжка працаваць з нашымі органамі. Калі яшчэ ішло першае следства, я тады працаваў галоўным рэдактарам БелТА, мне даводзілася бываць на паседжаннях камісій. Былі там людзі, якія спрабавалі дакапацца да ісціны. Але на ўсе запыты нават пракуратуры прыходзілі аднолькавыя адказы: "КДБ звесткамі не валодае". І на самых простых пытаннях. Я прывяду такі прыклад. Мы доўга не маглі знайсці прозвішчы тых людзей, якія ў той час працавалі ў НКВД. І так падыходзілі, і гэтак: дайце спіс, можа ёсць жывыя людзі — няма ніякіх спісаў. Але самае смешнае, што спіс быў знойдзены ў Архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі. Перагортваючы стос дакументаў, мы з маім паплечнікам заўважылі сведчанні аб прышчэпках ад воспы, якія рабілі супрацоўнікам НКВД. Мы знайшлі пяцьшэсць прозвішчаў: ахоўнікаў, вахцёраў, выводных. Потым пачалася праца з гэтымі людзьмі непасрэдна. Хадзілі да іх дамоў. І гэтак патроху збіралі інфармацыю.

Многа гаварылі з імі пра тое, як гэтым людзям даводзілася вадзіць на допыты, удзельнічаць у аблавах. Так, ёсць факт, што ў адну ноч прыйшоў загад сабраць у клуб Дзяржынскага трыста членаў сямей палякаў. Іх сабралі і ўсіх адвялі ў турму на вуліцу Валадарскага.

Вось яшчэ адзін прыклад, як мы атрымлівалі інфармацыю. Пасля кожнага паседжання камісіі мы публікавалі пра іх паведамленні. І, натуральна, пайшлі да нас лісты, званкі. І вось адзін званок быў ад немаладой кабеты, якая расказала, што ведала аднаго тагачаснага следчага НКВД, праўда, прозвішча яго яна дакладна не памятае, але ведае, што яго выключалі з партыі. Безумоўна, гэта была зачэпка, я пабег у архіў і праз дзень выйшаў на яго. Сказаць, што гэта чалавек той эпохі, гэта нічога не сказаць. Ён калаціўся перад намі, баяўся. Вельмі цяжка было зрабіць, каб ён пачаў расказваць...

Ён быў у аддзеле, які працаваў з перабежчыкамі. Гэта трыццаць восьмы год, трыццаць дзевяты год, перад вайной. Шмат моладзі перабягала мяжу. Іх лавілі, а большасць самі прыходзілі да органаў савецкай улады, прасілі прытулку. Быў артыкул, паводле якога за незаконны пераход мяжы давалі тры гады. Але трэба было шукаць шпегаў, і вось з гэтай моладзі рабілі шпегаў. Ён нам расказаў, якая перад ім стаяла задача. Следчыя былі малаадукаваныя людзі. Яму далі спіс пытанняў, якія ён павінен быў задаваць. І якія б адказы ні даваў перабежчык, ён пісаў тое, што трэба. А ўстаноўка была прыкладна такая. Пераходзілі ў асноўным мяжу групамі. Дапусцім, пяць чалавек. Калі там была дзяўчына, дык у адносінах да яе абмяжоўваліся трыма гадамі зняволення. Вядома ж, калі яна сябе добра падводзіла на допытах, а калі была занадта "ганарлівая", ёй давалі 7-8 гадоў. Да з гэткай невялічкай групкі абавязкова кагосьці аднаго рабілі шпегам. Абавязкова кагосьці вылучалі: хто найбольш адукаваны альбо на выгляд не спадабаўся.

Чаму кніжка называецца "Курапаты, польскі след"? Па-першае, такіх курапатаў было шмат раскідана па Беларусі, і па-другое, загінулі там не толькі жыхары Беларусі, перабежчыкі, але і польскія грамадзяне. Можна гаварыць амаль дакладна, што каля трох тысяч польскіх афіцэраў былі напярэдадні вайны ў турмах Заходняй Беларусі, і гэтыя людзі загінулі 22 — 23 і магчыма 26 чэрвеня 1941 года. На падставе чаго я гэта кажу? Ёсць сведчанні, і яны прыводзяцца ў кніжцы. Пракуратура мае дакументы допыту нейкага Пятра Маёрава. Ён працаваў у Глыбокім вахцёрам турмы. Хто не ведае, скажу, што на тэрыторыі Заходняй Беларусі было многа турмаў і даволі зняшчальных. У Вілейцы, напрыклад, зняшчальнасць турмы была больш за дзве тысячы, у Глыбокім — 530 чалавек, але вязняў там было амаль удвая болей. Маёраў расказвае, што 22 чэрвеня прыйшоў загад вывесці ўсіх вязняў, сярод якіх, падобна, былі і палякі, з турмы і пагнаць іх у бок Полацка. Прагналі іх кіламетраў, можа быць, дзесяць, як наляцелі нямецкія самалёты. Гэтых людзей прымусілі легчы, потым іх паднялі, правялі яшчэ некалькі кіламетраў, завялі ў нейкі кар'ер і ўсіх расстралялі.

Гэта адно сведчанне. Вось другое. Памятаеце, "Народная газета" друкавала вялікі нарыс пра вязняў мінскай турмы, напісаў яго Кастусь Гержыдовіч. Ён расказвае ,як 24 чэрвеня 1941 г. яго разам з астатнімі вязнямі мінскай турмы "Валадаркі" (а ў Мінску было дзве турмы: адна знакамітая "Амерыканка", другая — "Валадарка") вывелі і пагналі па цяперашняй вуліцы Свярдлова, далей павінны былі ісці да Чэрвеньскага рынку і павярнуць налева да Магілёўскага тракту. На вуліцы Свярдлова да іх далучылі вязняў з вакзала. Там стаялі вагоны з арыштаванымі людзьмі, прыгнаныя з Заходняй Беларусі. І Кастусь Гержыдовіч сцвярджае, што сярод гэтых людзей былі тыя, хто размаўляў па-польску. Іх прагналі да сумна вядомай Цагельні каля Чэрвеня, там раздзялілі на дзве палавіны. Адна палавіна, гэта тыя, хто сказаў, што ён не паляк, а беларус, і хто выпадкова трапіў, а другая палавіна — тыя, хто прызнаўся ў сваім польскім паходжанні. І вось першую палову адпусцілі, а другую прагналі да Цагельні і там расстралялі.

Магу сказаць, што кніга напісана на падставе тых фактаў, якія былі ўзяты з Нацыянальнага архіва і якія мы знайшлі самі, апытаўшы сведкаў. Кніга магла быць больш ёмістай, але мне не давалі доступу да тых дакументаў, да якіх да гэтага часу неабходны спецыяльны дазвол...

Пасля кароткага абмеркавання падзей 30-х гадоў на Беларусі перад залай выступіла перакладчыца Уршуля Мікалайчык.

— Я не выпадкова ўзялася за пераклад гэтай кніжкі. Сама я журналістка і не магла прайсці міма гэтае працы. Бо, як пісала я ў слове ад перакладчыка: "Тая праца, як кожная, што служыць праўдзе, хоць бы нават сабраная з крышынак, ёсць каштоўная. Але найкаштоўнейшае ёсць тое, што паўстала гэтая кніжка на Беларусі, дзе няма падставаў добрага клімату для адкрывання праўды аб змрочных часах сталінізму".

Пасля да публікі з невялічкай прамовай звярнуўся дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументалістыкі і архіўнай справы Уладзімір Міхнюк, у якой ён паведаміў, што ў сталінскія часы з Масквы ініцыяваліся рэпрэсійныя аперацыі з яўна пазначанымі нацыянальнымі прыкметамі: супраць габрэяў, супраць палякаў, супраць беларусаў. Ён прапанаваў сумеснымі намаганнямі беларускага і польскага бакоў выдаць поўны зборнік дакументаў і матэрыялаў па часах сталінскіх рэпрэсій. Як ён пераканаы — дакументы тыя ёсць і чакаюць свайго часу.

Са словамі падзякі да аўтара, перакладчыка і тых, хто ўдзельнічаў у выданні кнігі, выступілі ад імя яўрэйскага супольніцтва Барыс Азерскі, а ад імя татарскага "Аль Кітаб" — Ібрагім Канапацкі. Апошні прачытаў малітву за супакой душаў закатаваных у часы сталінскіх рэпрэсій.

Выклікае вялікае шкадаванне, што гэткай кнігі на Беларусі толькі некалькі экземпляраў і што яна выйшла пакуль толькі на польскай мове.

**С.М.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ТВОРЧАЯ КУХНЯ

# ЭЛЕАНОРА ЯЗЕРСКАЯ — ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ ЗРАБІЛА СЯБЕ САМА

***Выкладанне ў музычнай школе, потым у Белдзяржкансерваторыі; выпуск больш за сотню праграм; работа над цыкламі "Рэзананс", "Музыка маёй рэспублікі", "Ля раскрытай партытуры", "Музычныя тэатры краіны", "Вечары камернай музыкі", "Сустрэнемся пасля адзінаццаці", "Нашы госці"; удзел у фестывалях "Мінская вясна", "Беларуская музычная восень"; стварэнне імяннай праграмы — за ўсім гэтым стаіць адзін чалавек — чароўная, элегантная жанчына. 8 ліпеня Элеаноры Язерскай споўнілася... Зрэшты, бег часу не мае да яе ніякага дачынення.***

— Ёсць адзіны спосаб не быць старой: сканаць маладой. Але мне хочацца жыць. Я часта думаю пра тое, ці быў каму цікавы ўзрост тых жанчын, пра якіх я рабіла праграмы і якімі я захапляюся. Каго цікавіла, колькі гадоў было Марлен Дзітрых ці Како Шанель? Значыцца, трэба жыць, станавіцца такой, каб твой узрост нікога не цікавіў. І каб ты магла сказаць: "Тыя, каго цікавіць мой узрост, не цікавяць мяне", — і рабіць сваю справу далей. Пра старасць я пакуль не думаю.

**— Як Вы збіраецеся адзначыць свой юбілей?**

— Мне б хацелася зладзіць прыгожую вечарыну, нешта накшталт бенефісу. Яна адбудзецца ў апошні тыдзень верасня ў Доме афіцэраў, куды я хачу запрасіць усіх сваіх сяброў, знаёмых, артыстаў з Масквы ды іншых гарадоў. Вечарына будзе мець тэлевізійную версію — праграму "Элеанора Язерская запрашае". Прыемна, што ўсе падтрымліваюць гэтую ідэю. Хачу, каб вечарына атрымалася змястоўнай, цікавай і вясёлай. Сядзець у фатэлі ў якасці юбіляркі і проста прымаць віншаванні я не збіраюся. Хачу паспрабаваць сябе ў новай ролі. Спусціцца на сцэну па вялікай прыгожай лесвіцы ў суправаджэнні мужчынскага кардэбалета. У бенефісе заўсёды павінен быць нейкі сюрпрыз, падарунак публіцы. Я рыхтую такі нумар, але казаць пра яго я пакуль не хачу — хай гэта застанецца сакрэтам.

**— Што ў жыцці мае для Вас найвышэйшую каштоўнасць?**

— Праца і сустрэчы. І тым, і другім трэба даражыць. У гэтым сэнсе я шчаслівы чалавек: мне пашчасціла на цікавыя сустрэчы, знаёмствы, сяброўства з цудоўнымі людзьмі. Я ніколі не забуду тыя дні, што пражыла побач з І.С.Казлоўскім. Яму было ўжо далёка за 80, але ягоным памяці, эрудыцыі, энергіі можна было пазайздросціць. Ён пазнаёміў мяне са сваёй дачкой Аннай, з якой мы пасябравалі. Ужо адзінаццаць гадоў нашаму сяброўству з цудоўным грузінскім драматургам, пестуном усёй Грузіі Аляксандрам Чхаідзе. Часта згадваю ягоную непаўторную грузінскую дасціпнасць, гасціннасць, абаяльнасць і галантнасць.

Сваю працу я вельмі люблю. На тэлебачанне я прыйшла 18 гадоў таму і была, дарэчы, першым каментатарам: мяне запрасілі весці праграму "Рэзананс". Сёння, я лічу, гэтую назву зганьбіла самая мая нялюбая тэлевізійная праграма. "Рэзананс" тых дзён меў тэатральна-музычна-мастацкую накіраванасць і стаўся прабвобразам "Салона". Тады ўсё было прасцей і можна было паехаць у Маскву, Ленінград, і запісаць інтэрв'ю з І.С.Казлоўскім, запрасіць на здымкі праграмы М.Баярскага, А.Пятрова. Сёння працаваць вельмі цяжка, бо за ўсё трэба плаціць. "Салон" спонсара не мае, таму ўсе праграмы робяцца на старых запасах, фондах. Паездка ў "Астанкіна" для запісу патрэбнага матэрыялу цяпер немагчымая. Мне падабаецца праграма Я.Хрусталёва "Карамболь". Яна мае фінансавыя магчымасці запрашаць таленавітых гасцей. Ягор — малайчына. У маладых таксама ёсць чаму павучыцца...

Пайшоў ужо трэці год майму сяброўству з Віталем Жукафам. У інтэрв'ю ён кажа, што зносіны са мной шмат яму даюць, але шмат чаму ў жыцці і я навучылася ў яго і цяпер на некаторыя рэчы гляджу інакш. Шкада, што не магу яму дапамагчы: сёння эстрадныя спевакі пакінутыя на волю лёсу, імі ніхто не апякуецца. Віталі Жукаф, бясспрэчна, таленавіты, разумны, неардынарны чалавек. Напрыканцы ліпеня выйшла ягоная тэлевізійная праграма, своеасаблівы бенефіс.

**— Вы яркая, творчая асоба і эфектная жанчына. Ці даводзілася Вам адчуць на сабе зайздрасць ды іншыя адмоўныя праявы чалавечых эмоцый?**

— У мяне ёсць дзве ўлюбёныя фразы. Першую я паўтараю штодня: "Калі ты для кагосьці робіш штосьці добрае, то адразу набываеш 99 незадаволеных табой і аднаго няўдзячнага". Другую я прачытала ў інтэрв'ю Алена Дэлона (зрэшты, сумняваюся, што ён прыдумаў яе сам): "Варта вам хай крыху праславіцца і набыць вядомасць, як адразу з'явяцца і пойдуць побач з вамі хлусня, паклёп і зайздрасць". На жаль, мне таксама даводзілася адчуць гэта на сабе. Бывае крыўдна, але не хачу, каб жыццё мяне разлютавала, як многіх іншых. Злосць старыць чалавека, лагодныя людзі жывуць даўжэй...

**— Што дапамагло Вам сфармавацца як асобе?**

— Я заўсёды вучылася і пераканалася, што вучыцца трэба да скону сваіх дзён. У мяне былі цудоўныя сяброўкі. Трэба заўжды выбіраць у сябры людзей, якія лепш за цябе: побач з разумным чалавекам расцеш над сабой, а з ёлупнем дурнееш сама на вачах.

**— Значыцца, жаночае сяброўства існуе?**

— Я лічу, што так, але ў ім маецца ўсё ж такі элемент каварства.

**— Вы часта бываеце на разнастайных фестывалях. Якое ўражанне зрабіў на Вас тэлемарафон "Памяць", прысвечаны подзвігу Брэсцкай крэпасці?**

— Я вельмі люблю ездзіць на музычныя фестывалі ў нашай краіне і за мяжой, вельмі люблю "Славянскі базар". Тэлемарафон "Памяць", мэтай якога быў збор сродкаў на рэканструкцыю мемарыяла "Брэская крэпасць", зрабіў моцнае ўражанне на мяне. Сапраўды, грандыёзную працу здзейснілі рэжысёр А.Вавілаў, рэдактар Л.Палкоўнікава, А.Ярмоленка, арганізатары гэтай падзеі. Марафону папярэднічаў канцэрт майстроў мастацтва. Былі бліскучыя выступы Вуячыча, Ярмоленкі, выдатна прагучала новая аранжыроўка песні Лучанка "Калі б камні маглі гаварыць..." Але звярталі на сябе ўвагу і некаторыя недарэчныя моманты, калі канцэрт нібыта збочваў з абранай тэмы: выступ Наталі з гурта "Дзі Бронкс і Наталі" ў вопратцы, набытай, напэўна, у секс-шопе, або Ліка Ялінская, што актыўна заклікала ветэранаў сталага веку павесяліцца.

**— Хто дапамагае Вам у стварэнні праграм і рыхтуе Вашы туалеты для здымак?**

— Падборам матэрыялу для перадач я займаюся сама. А наконт касцюмаў... Нядаўна я выпадкова даведалася, што І.Хрушчовай з АТН мая родная тэлерадыёкампанія набыла ў буціку "Лондан" касцюмы на 2000 даляраў. Мне за 18 гадоў працы на БТ не купілі ніводнай сукенкі... Апранаюся на свае грошы.

Жанр салона патрабуе быць прыгожа апранутай, і кожнага разу мне хацелася б здымацца ў новай вечаровай сукенцы. На жаль, гэта немагчыма. Застаецца адно: з шыкам насіць тое, што гледачы ўжо бачылі. Мае задумы і ідэі ў "працоўнай" вопратцы дапамагае здзейсніць малады таленавіты стыліст Тамара Комар. Вядома, хочацца выглядаць прыгожай, але трэба думаць і пра тое, каб вопратка не адцягвала ўсю ўвагу на сябе. Галоўнае ў "Салоне" — не Элеанора Язерская, а тыя цудоўныя людзі, пра якіх яна робіць перадачу.

**— Каму Вы збіраецеся прысвяціць свае наступныя праграмы?**

— Мне вельмі прыемна, што такі шырокі рэзананс атрымалі праграмы, прысвечаныя Ф.Шапэну і Ж.Санд, "каралю аперэты" І.Кальману і ягонай жонцы Веры, рускай па паходжанні. У "Салоне" мне хацелася б распавядаць пра вялікіх жанчын, якія зрабілі вялікі ўплыў на мастацтва і грамадскае жыццё свайго часу, якія пакінулі след у гісторыі. Пра тое, як вакол гэтых жанчын гуртаваліся лепшыя мужчыны і як нараджалася дзякуючы ім вялікае мастацтва. У наступных праграмах будзе расповед пра Тургенева і Віярдо, чакаю таксама ад французскага пасольства матэрыял для стварэння перадачы пра Како Шанель, якая шмат зрабіла добрага для Стравінскага і Дзягілева. Шкада, што ў беларускай гісторыі мала такіх імёнаў. Пра Еўфрасінню Полацкую і Рагнеду мы ведаем занадта мала... Зрэшты, вялікую цікаўнасць могуць выклікаць каханыя жанчыны Я.Купалы.

"Музычны салон Элеаноры Язерскай" — першая "імянная" праграма на нашым тэлебачанні. Гэта дае падставы аўтару адчуваць і гонар сабой, і вялікую адказнасць. Я раптам падумала: я ж ніколі не вяла забаўляльных праграм, а цыклы "Ля раскрытай партытуры", "Па старонках беларускай оперы" і г.д. служылі прапагандзе беларускай музыкі і мелі асветніцкі характар. Ніхто і ніколі не стаяў за маёй спінай. І цяпер я дакладна ведаю: палову жыцця мы працуем на сваё імя, а затым імя пачынае працаваць на цябе. Не буду какетнічаць: прыемна, калі да мяне падыходзяць незнаёмыя людзі і кажуць добрыя словы. Значыцца, усё гэта камусьці патрэбна, і дзеля гэтага варта жыць і працаваць.



**Гутарыла Святлана ТАТУР**
**Фота Галіны МАСКАЛЁВАЙ**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 861
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.